

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Калі толькі дзяржаўную прэсу пачытаць, дык нават цяпер, у час алімпійскіх гульняў у Сыднэі, няма падзеі больш важкай, чым хакейны матч з удзелам Лукашэнкі ў Магілёўскім лядовым палацы. А я пра іншае распавяду. За дзень да хакею ў палацы культуры "Хімвалакно" мусіў адбыцца балет "Кармэн-сюіты" Бізэ-Шчадрына. Дзеля гэтага трэба было прагрэць сцэну. Але не зрабілі таго, бо эканомілі электрычнасьць. Зразумела, што на "высокім" хакейным матчы ніхто нічога не эканоміў. У выніку, аматары мастацтва, што прыйшлі на спэктакаль (а быў аншляг), былі вымушаныя ісьці дадому, бо балетныя акторы на халоднай сцэне танчыць адмовіліся, – яны ж ня ворагі ні сабе, ні мастацтву.

Усяго 40% ад заплянаванага здолелі ўзьвесьці магілёўскія будаўнікі з пачатку году. Пра гэта было сказана на апошнім паседжаньні гарвыканкаму. Фікцыя пад назовам "дзяржаўны плян" і сапраўды фікцыя. Ва ўмовах вялікай інфляцыі, фактычнага заняпаду вытворчасьці, бюджэтнага дэфіцыту, усе незалежныя спэцыялісты сьцьвярджаюць пра невыканальнасьць любых уладных плянаў. Начальнік будаўнічага ўпраўленьня гарвыканкаму Іван Канапліцкі фактычна прызнаў, што адна з прычынаў невыкананьня пляну – працы на Лядовым палацы, якія адцягнулі і грошы, і працоўныя сілы. Але, відавочна, што праблема глыбей. Яна – у антырынкавай эканоміцы і таталітарным укладзе дзяржавы.

Магілёўскі гаспадарчы суд распачаў справу аб банкруцтве рэгенэратнага заводу. Паводле афіцыйных зьвестак, прадпрыемства запазычылася на 200 мільёнаў крэдытных грошай. Суд ужо прызнаў завод неплацёжаздольным. Хоць нядаўна прадпрыемства атрымала крэдыт на аздараўленьне фінансовага стану, гэта не дапамагло. Зараз тут працуе ўсяго 200 чалавек. Пасьля абвяшчэньня завода банкрутам яго, верагодна, выставяць на продаж. Зараз у вобласьці ўжо 17 такіх банкрутаў. Фактычна ж, амаль усе прадпрыемствы ў нас – даўнія банкруты.

На колішнім Магілёўскім таварным рынку адчынілася прамысловая выстава. Справа добрая. Бо трэба ж свой тавар хоць неяк рэклямаваць. Няма грошай на дарагую рэкламу, можна скарыстаць хаця б такую магчымасьць. Але ж галоўная праблема зусім не ў адсутнасьці рэклямы, а ў тым, што нашыя эканамічныя ўмовы перашкаджаюць нармальнаму гандлю. Камэрцыйныя пасярэднікі фактычна забароненыя, а яны і ёсьць рухавікамі гандлю. Акрамя таго, з-за зношанасьці абсталяваньня і ненатуральна высокіх аб'ёмаў вытворчасьці, прадукцыя дарагая і неканкурэнтаздольная. У выніку растуць таварныя запасы на складах, а заробкі аплочваюцца рублёвай эмісіяй, альбо затрымліваюцца.

Цікавы выпадак адбыўся ў калгасе "Радзіма" Магілёўскага раёну. Адтуль патэлефанавалі ў адну з дзяржаўных газэт і паведамілі, што ўся тэхніка тэрмінова працуе на ўчастках кіраўніцтва гаспадаркі. А "простым" людзям тэхнікі не хапае. У выніку даяркі і скотнікі могуць застацца бяз бульбы, сена ды інш. З газэты патэлефанавалі ў калгас, і там паведамілі, што ўсё нармальна. Пра тое газета й надрукавала. Дазволю сабе выказаць сумнеў наконт таго, што ўсё нармальна. Звычайная практыка нашых гаспадарак, калі кіраўніцтва вырашае найперш свае праблемы, а ўжо потым зьвяртаецца да патрэбаў працоўнага чалавека. Для калгаснага старшыні галоўнае – год пражыць і ў хату прынесьці, а не наладзіць гаспадарку. Бо яна не ягоная, няма ў ёй гаспадара, а таму няма і ладу.

Міхаіл Дражын моцна крытыкаваў кіраўніцтва аблспажыўсаюза. Маўляў, мала гандлююць і мала прадаюць. А яны ж адзіныя манапольныя ўладальнікі вясковай гандлёвай сеткі. Іхныя ўнівэрсамы ў райцэнтрах, іхныя рэстарацыі, іхныя аўталаўкі. Хто бываў у вясковых крамах, ведае іх бедны і амаль што пахавальны выгляд. Там не набываць хочацца, а наадварот – пакінуць нешта "на жабрацтва". Усе апошнія гады дзяржава толькі і рабіла, што зьнішчала іхных канкурэнтаў. Толькі падумайце: камэрцыйная па сутнасьці ўстанова мае страты амаль у мільярд рублёў. Мяркую, што гэта яшчэ не канец. Бо аблспажыўсаюзу зручней проста ўзьнімаць кошты. На заробак начальству хопіць.

Яшчэ адно з наступстваў празрыстай усходняй мяжы Беларусі – набегі злодзеяў. Яны крадуць драты зь ліній электрапэрадач. На мінулым тыдні ў Касьцюковіцкім раёне скралі амаль 6,5 km дроту. А праз пару дзён у Хоцімскім раёне зьнялі яшчэ 1,12 km. Міліцыя, натуральна, вядзе пошук злачынцаў. Асноўная вэрсія – дрот ужо ў Расеі.

Што зробіш і чаго толькі не павыдумляеш, калі няма грошай! Напрыклад, няма сродкаў, каб абнавіць аўтобусны парк. Дык і ня будзе пры цяперашнім крызысе. А з транспартнага падатку дзяржава здолела набыць толькі два аўтобусы ды адрамантаваць два дзясяткі машын. А патрабуецца нашмат больш. Дык М.Дражын прапанаваў, каб прадпрыемствы дастаўлялі людзей на працу на сваіх машынах. Праўда, не ўва ўсіх яны ёсьць. Акрамя таго, нават у такіх гігантаў, як "Хімвалакно", няма столькі транспарту, каб перавезьці тысячы людзей. У хуткім часе, па ўсяму відаць, з пасажырскім транспартам стане зусім дрэнна.

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

# Па шляху ў дэпутаты

...Пра дзіўныя рэчы часам даведваесься выпадкова. Вось і днямі, размаўляючы з мэханізатарам калгасу "Камінтэрн" Магілеўскага раёну Міхаілам Старавойтавым, давялося пачуць: на зьезд Аграрнай партыі, што прайшоў на пачатку году, іх, трох чалавек з "Камінтэрну", прызначыла кіраўніцтва. Гэта падалося незразумелым, бо на зьезды звычайна выбіраюць. Існуе працэдура, згодна зь якой пярвічныя арганізацыі выбіраюць дэлегатаў на раённую канфэрэнцыю. Там – на абласную, і потым ужо толькі на зьезд.

Але пасьля высьвятленьня ўсіх абставінаў у "Камінтэрне" сытуацыя стала яшчэ больш незразумелай. У калгасе значылася больш за 100 сябраў Аграрнай партыі, але ўсе, з кім давялося размаўляць, упэўнена казалі, што ніякага сходу, дзе выбіралі б дэлегатаў – хаця б нават і адразу на зьезд, – не было. Апошнюю кропку паставіў намесьнік старшыні калгасу й цяперашнім часам кіраўнік пярвічнай арганізацыі Аграрнай партыі Ігар Волкаў, які таксама ўпэўнена заявіў: калгасная арганізацыя больш за тры гады не працуе. Ніякіх сходаў па выбарах дэлегатаў не было. На зьезд людзей калі й вылучалі, то, можа, на нейкай нарадзе...

Усё стала яшчэ больш цікавым: на тым сходзе Аграрнай партыі, пра які йдзе размова, выбіралі яе кіраўніцтва. У тым ліку, старшыню – ім стаў рэдактар "Народнай газеты" Міхаіл Шыманскі.

Цяпер партыя вылучыла сваіх кандыдатаў на дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Але калі парушана працэдура падрыхтоўкі й правядзеньня зьезду, то ўсе далейшыя дзеяньні кіраўніцтва аграрнікаў становяцца незаконнымі.

Сытуацыя проста вымагала далейшага высвятленьня, і я сустрэўся з актывістамі партыі яшчэ ў некалькіх раёнах, прыкладам, у Клімавіцкім. Там высьветлілася, што сходу па выбарах дэлегатаў таксама не было. Проста пасьля адной з нарадаў па праблемах жывёлагадоўлі ў залі пакінулі кіраўнікоў гаспадарак і старшыняў сельсаветаў, зь іх ліку і выбралі (а па сутнасьці прызначылі) – 4-х дэлегатаў. А якой была норма прадстаўніцтва, ніхто не ведаў, бо гаворкі пра гэта на нарадзе не было. Пазьней сталася зразумелым, адкуль што ўзялося: менавіта 4 чалавекі ўмяшчаў калгасны легкавічок, якому даручылі ў рабочы час, на казённым паліве, везьці "дэлегатаў" у Менск.

Яшчэ далей высьветлілася, што з гэтых дэлегатаў двое (у тым ліку старшыня калгасу "Рабочы" Аляксандар Братанаў) ніколі не былі сябрамі партыі. А яшчэ далей стала вядома, што нават гэтыя людзі, абраныя з усімі магчымымі парушэньнямі заканадаўства, на зьезд не паехалі. Бо былі занятыя на вытворчасьці.

У суседнім Крычаўскім раёне, дзе, па паперах Аграрнай партыі, значылася адна з самых вялікіх у вобласьці арганізацыяў, пра выбары й пра зьезд наогул нічога ня ведаюць.

Такім чынам атрымліваецца, што ўва ўсіх раёнах Магілеўшчыны, дзе аўтару давялося пабываць, ніхто нікога не выбіраў. У лепшым выпадку прызначалі – што зьяўляецца грубым парушэньнем як статуту арганізацыі, гэтак і заканадаўства дзяржавы. Зьезд са свайго боку вылучыў кандыдатаў у палатныя дэпутаты.

Але вось пытаньне: ці могуць быць законатворцамі тыя, хто самі парушаюць закон?

*Анатоль ГУЛЯЕЎ*


Фота IREX

# Вяртаньне да прыгону

Бялыніцкі райвыканкам (відаць, у зьвязку з маючым адбыцца Рэспубліканскім зьездам саветаў) выдаў пастанову "Аб павелічэньні паўнамоцтваў сельскіх Саветаў і сельскіх выканкамаў на падведамнай ім тэрыторыі".

Вядома, што сельсаветы й іхныя выканкамы ніякай ролі не адыгрываюць, бо поўнасьцю падначаленыя раённым інстанцыям і па-просту дублююць іх. Каб падвысіць іх ролю, патрэбнае толькі адно: даць ім самастойнасьць. Аднак "вэртыкаль" па вызначэньні ня мае на ўвазе такіх намераў. Самае большае, на што яна час ад часу ідзе – гэта на перазьмеркаваньне чыіхсьці паўнамоцтваў, забіраючы ў адных і надзяляючы іншых. Гэтая формула выкарыстаная ў згаданым рашэньні Бялыніцкага выканкама.

У выніку яго рэалізацыі ў кіраўнікоў вясковых прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў паўнамоцтваў паменшае, а ў сельвыканкамаў – пабольшае. Толькі і ўсяго. А канкрэтова гэта выглядае такім чынам (цытую): "Кіраўнікі прадпрыемстваў, установаў, арганізацыяў і гаспадарак абавязаныя ўзгадняць кандыдатаў на пасады кіраўнікоў, іх намесьнікаў і галоўных спэцыялістаў, а таксама пытаньні іхняга пераводу, перамяшчэньня, звальненьня і адпачынку са старшынямі сельсавета і сельскага выканкама".


Фота IREX

У нашай гісторыі такое ўжо было. Падчас сталінскага калгаснага ладу ніхто ня меў права пакінуць вёску бяз пашпарту, а выдаваўся дакумэнт толькі са згоды старшыняў гаспадарак ці якога іншага раённага начальства. Зусім нядаўна райкамы партыі давалі альбо не давалі згоду на выезд з чарнобыльскіх зонаў тым, у каго меўся партбілет. Сытуацыя, як бачым, добра вядомая для нашай намэнклятуры. Захоча звольніцца, прыкладам, які спэцыяліст з надакучаўшага яму калгасу, а старшыня па дамове зь сельвыканкамаўскім калегам будзе супраць: вось і сядзі на месцы ўсё жыцьцё. Ці ж гэта не прыгнёт?..

*Міхась КАРПЕЧАНКА*

ПРА СЯБЕ І ЧАС

# Што дае моцы ў жыцьці і творчасьці



*Наша размова з Валянцінам Ермаловічам мелася завяршыцца напісаньнем артыкула пра яго – галоўнага рэжысэра народнага тэатра Магілёўскага цэнтру культуры і вольнага часу (па-простаму: гарадзкога дома культуры). Артыкула ў "Тыднёвіку" ня першага, бо Валянцін Ермаловіч – асоба адметная, якая прыцягвае да сябе грамадзкую ўвагу і цікавасьць багатым жыцьцём (сёлета яму споўнілася 75 год), таленавітай нястомнасьцю ў працы, шчырай адданасьцю нацыянальнаму тэатру.*

*Аднак пагартаўшы занатоўкі і паслухаўшы магнітафонны запіс гаворкі, якія аўтар рабіў падчас яе, падумалася, што лепш за самога Ермаловіча пра ягонае жыцьцё і ягоныя думкі ніхто ня скажа. Такім чынам і нарадзіліся гэтыя маналёгі.*

## Школа й вайна

Мой школьны настаўнік, а было гэта, як вы разумеце, вельмі даўно, даручыў мне вывучыць на памяць апавяданьне Якуба Коласа "Першыя заробкі". Памятаеце, гэта пра хлопчыка, якога з дома накіравалі ў заробкі – у пастушкі?.. Ня ведаю, як ужо я чытаў гэты твор, а толькі настаўнік, пасьля паўзы, зьдзіўлена і цёпла сказаў: "Ну, Валянцін, ты чытаў як сапраўдны артыст". Гэтыя словы надта спадабаліся мне. Я ўвесь час прамаўляў пра сябе: як сапраўдны артыст! Зразумела, што тут жа пайшоў у самадзейнасьць, дзе чытаў вершы, апавяданьні, удзельнічаў у школьных пастаноўках. Дайшло да таго, што недзе ў 7-й клясе сам напісаў нешта накштаклт п'есы. Называлася яна актуальна па тым часе – "Граніца на замке", пра шпіёнаў. І сам яе паставіў. Мы жылі тады пад Дзяржынскам (Койданавым), якраз на дзяржаўнай мяжы. Час ад часу нават нас, старэйшых школьнікаў, не гаворачы пра дарослае насельніцтва, прыцягвалі для прачосваньня лесу ў пошуках гэтых самых шпіёнаў. Таму спэктакаль падабаўся ўсёй школе. Мяне пачалі зваць хто артыстам, хто пісьменьнікам, хто рэжысэрам... Толькі і чакаў, калі змагу паехаць у Менск у тэатральную вучэльню. Аднак не давялося: старэйшыя браты і сёстры з дому выбраліся, з бацькамі заставаўся я адзін. Да таго ж бацьку хутка арыштавалі, што адбывалася тады даволі часта. НКВД было, відаць, значна зручней браць "шпіёнаў" пад бокам, чым шукаць іх недзе ў лясах. А там і вайна, акупацыя. Страшна ўсё гэта было...

А ў 1944 годзе я пайшоў у Чырвоную Армію. Зноў было не да тэатра. Служыў у пяхоце, разумееце самі, што гэта значыць. Мяне ж аднойчы нават пахавалі. Так здарылася, што я трапіў зь сябрамі пад бомбы. Было гэта каля Ломжы ў Беластоцкай вобласьці (у тыя гады гэта быў захад Беларусі, цяпер – усход Польшчы – рэд.). Мяне параніла. Бамбілі доўга. Калі я апрытомеў, нікога жывога ўжо побач не было. Пачаў паўзьці... Адна рука, адчуваю, не працуе, а ў другой я трымаю гранату. Прычым "чаку" я выдзярнуў, граната – баяздольная. Вось такім чынам, з "жывой" гранатай я поўз шмат гадзінаў запар, пакуль не сустрэў сваіх разьведчыкаў. Яны й здолелі выслабаніць мяне ад гранаты. Потым яшчэ цэлы дзень я да сваіх дабіраўся. І пад перастрэлку патрапіў, і па каляіне поўз некалькі гадзінаў. Але выжыў. У шпіталі, калі крыху лягчэй стала, адразу ж пачаў ліст дадому пісаць. Дык вось высьветлілася, што раней за мой ліст там атрымалі паведамленьне аб маёй сьмерці. Дома ўжо і памянуць пасьпелі, а тут ад мяне ліст прыйшоў. Дарэчы, яшчэ пэўны час не давалі веры, што я жывы. Лічылі, што я пісаў да таго, як загінуў. У вайну так часьцяком здаралася. Ды й сёньня ня ўсе памылкі выпраўленыя. Зь нейкіх сьпісаў мяне ўсё ж ня выкрэсьлілі, бо час ад часу дзяржынская раёнка друкуе прозьвішчы загінуўшых землякоў – і маё там стаіць. А я жывы, вось толькі нашу ў сабе 9 асколкаў і сьляды 4 раненьняў...

## Іду ў артысты!

Пасьля вайны хацеў паступіць на юрыста. Пачаў дакумэнты зьбіраць – і натрапіў у газэце на інфармацыю пра пачатак прыёму ў тэатральны інстытут. Вось і ўспомніў: я ж артыст! Паступіў. Вучылі нас заснавальнікі беларускага тэатра Міровіч, Саньнікаў, Арлоў. Пасьля вучобы нядоўгі час працаваў у Пінску, потым патрапіў у Магілёў. Тут і працую практычна ўсё жыцьцё. А адразу быў накіраваны ў вучэльню культуры выкладаць тэатральную справу. Паралельна заняўся стварэньнем самадзейных народных тэатраў у Краснапольлі, Бялынычах, абласным цэнтры. Так і працую шмат год. Усюды імкнуўся і цяпер не кідаю гэтай справы – узьнімаць беларускі тэатар. Гэта, між іншым, не заўсёды было лёгка: даводзілася сустракацца зь неразуменьнем, а тое й варожасьцю. Аднак не адступаў. На маіх сцэнах заўсёды ставілася наша нацыянальная клясыка: Дунін-Марцынкевіч, Караткевіч, Гарэцкі, Купала, Колас, Багдановіч, Макаёнак, Пысін. Да нашага гонару, Максіма Гарэцкага зараз ставіць толькі наш магілёўскі народны тэатар. Драматург надзвычай нацыянальны, глыбокі, мудры й па-эўрапейску вялікі, а вось не ацэнены тэатрамі. На нашую долю й выпала радасьць ягонага своеасаблівага адкрыцьця. Спадзяемся, што ад нас пойдзе цікавасьць да Гарэцкага ў іншых тэатрах, найперш прафэсійных.

Шмат чаго дала мне ў жыцьці і творчасьці сустрэча з Аляксеем Пысіным. Менавіта ён, як гэта я цяпер разумею, вучыў мяне быць беларусам. А гэта не заўсёды было лёгка. Напрыклад, неяк мяне нават "прарабатывалі" у вучэльні за выкладаньне свайго курсу па-беларуску. Аляксей Пысін даваў у такіх выпадках вялікую падтрымку і сілу. Параўнацца ў гэтым з Пысіным мог яшчэ толькі мой брат Мікалай. Ён быў вучоным-дысыдэнтам, калі гаварыць адкрыта. Ён заўсёды ішоў насуперак афіцыйнай "ідэалягічнай" навуцы, шукаў тое, што было гістарычнай праўдай, а ня тым, што пад яе падганялася. Цяпер мала хто аспрэчвае ягоныя навуковыя адкрыцьці. А даваліся яны вельмі нялёгка. Прыкладам, доўгі час так і лічылася, што ніякай Беларусі не было й няма, а ёсьць расейскі "северо-западный край". Зь Мікалем мы пра многае гутарылі, ён навучыў вельмі многіх, і мяне, зразумела, паважаць сябе менавіта як прадстаўніка адной з эўрапейскіх нацыяў, якая дала сьвету многія дасягненьні культуры, навукі, эканомікі. Пашырыць гэтае разуменьне ў грамадзтве можна й трэба менавіта праз тэатар, праз роднае слова. Як можна выкладаць беларускую літаратуру ці гісторыю на іншай мове?! Вось так і перайшоў на беларускую мову, спачатку ў выкладаньні, потым на сцэне, а цяпер, шмат год ужо, у паўсядзённым ужытку. Адчуваю нейкую вельмі важкую душэўную гармонію і сілу. Вось што значыць родная мова.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***
***(Заканчэньне ў наступным нумары)***

## Самакіраваньне для студэнтаў

На тыдні ў Магілёве прайшоў сэмінар па праблемах студэнцкага самакіраваньня. Гэты праект ў нашай краіне ажыцьцяўляецца грамадзкім аб'яднаньнем "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў" і галяндзкім студэнцкім аб'яднаньнем LSV-b.

Сэмінарскае навучаньне было лягічна падзеленае на дзьве часткі: абмеркаваньне праблемаў студэнцтва і прапановы па іхняму вырашэньню. Галяндзкія трэнэры (вядучыя сэмінара) падзяліліся з удзельнікамі сваім досьведам і практыкай студэнцкага самакіраваньня, якія існуюць у дэмакратычных краінах. Па іхных словах, адміністрацыі навучальных установаў ахвотна і плённа супрацоўнічаюць з студэнцкімі выбарчымі структурамі. У нашых студэнтаў – усё наадварот. Як зламаць такую сыстэму – пра тое актыўна й шчыра дыскутавалі ўдзельнікі сэмінару. А ўвечары студэнтам наладзілі вечарыну з удзелам бардаў Васіля Аўраменкі і Ігара Мухіна. Галяндзкі бок частаваў беларускіх сяброў сваім знакамітым сырам і віном, прыгатаваным у хатніх умовах. Адзін з тостаў быў узьняты за "Кола сяброў", якое спрычынілася да плённай арганізацыі і правядзеньня сэмінару.

***Дзяніс НОВІКАЎ***
***Фота аўтара***



*"... Безьліч замоваў, і ні ад адной я не адмовіўся. Ня буду хлусіць. Ня ўсё атрымліваецца ў мяне добра. І толькі прынцып заставаўся адзін і той жа: не адмаўляйся і працуй сумленна. Адпаведна, калі запрапанавалі зрабіць нумар ARCHE, прысьвечаны мне, я даў згоду".*

***Адам Глёбус.***

**Выйшаў новы нумар часопісу "ARCHE", прысьвечаны пісьменьніку Адаму Глёбусу. Часопіс у Магілеве можна прыдбаць, патэлефанаваўшы 25-57-85 (пасьля 21-й гадзіны).**







Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 38. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 28.09.2000 г. а 17.05.